**— Не называйце мяне Іванавічам, — папрасіў Рыгор Барадулін, калі мы селі за стол і я ўключыў дыктафон, задаўшы яму першае пытанне.**

**— А і праўда, — успомніў я, — у нашай вёсцы ніколі не называлі адзін аднаго па бацьку, — хіба што начальнікаў.**

**— Во-во, тых начальнікаў, якіх пасадзілі Саветы, — падхапіў Барадулін.**

**— Але як тады звяртацца! Ад «пана» адвыклі, да «спадара» не прывыклі, «таварыш» устарэў...**

**— А як у вёсцы!**

**— Да старэйшых — «дзядзька», — успомніў я.**

**— Дык навошта тады выдумляць нешта новае! — хітравата ўсміхнуўся ў вусы Барадулін. — Завіце дзядзькам Рыгорам.**



Рыгор БАРАДУЛІН:

# «Чорны вол маёй трывогі, Белы вол маёй надзеі...»

**— Дзядзька Рыгор, не так даўно бачыў па тэлевізары, як у Вярхоўным Савеце Вас віншавалі са званнем народнага паэта. Міжволі падумалася: цікава, ці бываў Рыгор Барадулін у гэтым будынку пры ранейшых гаспадарах? За Вамі ж, калі не памыляюся, трывала замацавалася рэпутацыя чалавека, які трымаўся на адлегласці ад высокіх кабінетаў?**

— У гэтым светлым будынку ЦК я быў двойчы. Адзін раз спрабаваў давесці партыйнай даме з ідэалагічнага аддзела, што трэба выдаць на ўсіх мовах свету «А хто там ідзе?» Купалы (накшталт таго, як зрабілі латышы са «Зламанымі соснамі» Яніса Райніса). Пазней гэта кніга, дарэчы, выйшла. А другі мой паход быў, калі туды выклікалі ўсю рэдакцыю «Полымя». (Я там працаваў загадчыкам аддзела паэзіі). Тады я яшчэ быў малады і вясёлы. Помню, перад тым мы з хлопцамі добра выпілі (а раніцай трэба было ісці). Я ўсё баяўся, што мяне выклічуць, давядзецца выступаць, будзе нядобра пахнуць. І, апахмяляючыся, папрасіў у буфетчыцы разам са шкляначкай каньяку жменю лаўравага лісту. Слухаў доўгія прамовы і жаваў, як казёл, гэты ліст. Пад канец мне стала так дрэнна, што нават пашкадаваў — няхай бы пахла, ліха з ім. Так у мяне ў памяці і застаўся ЦК з пахам лаўравага лісту.

**— Казалі, неяк Машэраў дапытваўся, ці не Вы аўтар «Сказа пра Лысую гару». І, нібыта, пачуўшы, што Вы адмаўляецеся, заўважыў: «А шкада, добра напісана!»**

— Не, я з Машэравым на кароткай назе не быў, блізка ніколі не гаварыў — гэта пра Вялюгіна казалі. А «Сказ пра Лысую гару», я думаю, пісаў Звонак. Па тым, як майстравіта напісана, яго рука ўгадваецца. Тым больш, што ён там якраз жыў і на яго вачах усё гэта адбывалася. Я ж на Лысай гары амаль не бываў.

**— Потым былі і іншыя ананімныя паэмы — «Сказ пра Саўку Паўлава», «Ачмурэнне...» Вам яны падабаюцца?**

— Самая лепшая з усіх іх — першая частка «Лысай гары». Астатняе — падробка, імітацыя. А імітацыя — яна як, прабачце, імітацыя палавога акта. Рух ёсць — але ні выніку, ні асалоды.

**— Раз ужо мы загаварылі пра Вашы складаныя адносіны з партыяй... Ад школьнай хрэстаматыі па беларускай літаратуры ў мяне ў памяці застаўся ўспамін аб бясконцай кольkasці вершаваных услаўленняў партыі і Леніна. Вы такія вершы пісалі?**

— Некаторыя вершы былі і ў мяне. Адзін з іх, пра Леніна, нават знялі, як крамольны, з ленінскага зборніка, што выходзіў у Маскве. Начуты легендамі пра тое, што ў Леніна былі філянковыя дзверы, я заклікаў начальнікаў адмовіцца ад двайных дзвярэй. Нават гэта тады лічылася крамолай.

Ёсць у мяне і іншыя ўпамінанні пра партыю, пра Леніна. Вось помню такое:

Тых ненавіджу запявал
З іх пафасам ілжыва-палкім,
Што нат «Інтэрнацыянал»
Спяваць хацелі б па
шпаргалках.

З трыбуны рвецца на прасцяг,
А гэткі асабняк адгакаў:
Уверсе — пурпуровы сцяг,
Унізе — шыльда «Злы
сабака».

Пісаў, як усе. Што ўжо цяпер адмаўляцца! А што тычыць хрэстаматый, то ў мяне такое ўражанне, што туды спецыяльна падбіраліся самыя горшыя вершы, каб адбіць у дзяцей усякую ахвоту да беларускай літаратуры. Самае казённае, самае халоднае туды цягнулі, — суцэльны барабанны бой. А расійскія хрэстаматыі, наадварот, складаліся з класікі, з выдатнай пейзажнай лірыкі, — Пушкіна, Лермантава...

**— А былі тады, у 60—70-я гады, беларускія паэты, у каго такіх вершаў не сустрэнеш?**

— Нават не ведаю... Хто друкаваўся — у асноўным не пазбягаў гэтага. Гэта быў абавязковы рытуал. Ведаеце анекдот пра мастака, які маляваў абстрактную карціну, а яна ніяк не праходзіла, яе не заўважалі. Тады ён намаляваў сабачку ўнізе — і адразу ўсе загаварылі: «Выдатная карціна, вось толькі каб сабачку ўбраць». Дык вось; гэтыя вершы былі патрэбны, як той сабачка — каб адцягваць увагу.

**— Палітыка і паэзія — гэтыя дзве з'явы сумяшчальныя? Палітычную паэзію, увогуле, можна лічыць паэзіяй ці гэта фантазія тых, хто выдумаў сацыялістычны рэалізм?**

— Наогул, усё залежыць ад таго, як напісана... Але ўсё-такі палітычная паэзія, як бы гэта далікатней сказаць, не зусім паўнацэнная. Як і любая аднадзёнка. Тое, за што сёння агітуюць, заўтра можа выглядаць смешна. Вось як з Пушкіным: то падкрэсліваўся яго дэмакратызм, то цяпер манархісты-дзяржаўнікі вышукваюць у яго рэверансы імператару. А Купала? Там, дзе лірык, ён — золата-паэт. А публіцыст Купала — гэта зусім іншае. Часам нават узнікае такая крамольная думка: можа, лепш было б, каб Купалы ўвогуле не існавала на той час? Але калі б не было Купалы і Коласа — не было б нацыі. Закрылі б літаратуру, як факт. Гэтыя два паэты са сціснутым горлам хрыпелі вымушаныя свае песні. І застануцца не іх аднадзёнкі — застанецца лірыка Купалы, яго паэма «Яна і я», паганскія паэмы. Застанецца «Новая зямля» Коласа — паэма, якая ўвабрала ўсю душу беларуса.

Я цяпер перачытваю Дубоўку, Пушчу... Добра бачна: да 20-х гадоў яшчэ існавала імкненне да чыстай паэзіі, да еўрапейскасці. А пасля, як адрэзала — адны лозунгі супраць буржуяў і паноў, «дзякуй кастрычніку»...

У гэтых адносінах вельмі цікава паводзіў сябе Максім Танк. У яго вельмі выяўна аддзелена адно ад другога: Богу — Богава, а кесару — кесарава. Альбо чысцейшага золата лірыка, альбо — «Наце вам, толькі дайце пісаць». У многіх іншых паэтаў, што страшней — у лірыку, у самую чысціню, уплятаецца ідэалагізаванасць,— як чорны капрон у белы кужаль.

**— Пасля таго, як адкрылі шлюзы, як сказалі «Можна» — у рускай літаратуры з'явілася мноства твораў, што пісаліся «ў стол». У нас — амаль нічога. У чым прычына — у слабасці нашай літаратуры?**

— Сапраўды, у нас пісалася «ў стол» мала. Шкада, але нашы паэты, якія ацалелі, прайшоўшы праз ГУЛАГ, — у асноўным пісалі не ў стол, — апявалі Леніна і партыю. Іх можна зразумець — яны баяліся.

Цяпер, калі некаторыя дужа актыўна сталі пісаць пра гэта, я адчуваю, што яны добра выштудзіравалі Салжаніцына. Але час ужо мінуў. Ну, можна яшчэ страшней, і яшчэ... Гэта, як фільмы жахаў. Спаборнічаць, хто каго жахамі пераплюне?

Сістэма многіх зламала. Той жа Дубоўка, — паэт, які мог бы стаць асобай еўрапейскага маштабу. Але і ён вымушаны быў падпарадкавацца.

З тых, хто не «зламаўся», я б прыгадаў Алеся Звонака. Гэта чалавек высокай культуры і інтэлекту. Ён, можа, баяўся напрамую раскрываць гэту тэму, але паказваў яе па-свойму, не ў прыклад іншым.

**— Калі б Вам даручылі скласці падручнік сучаснай беларускай літаратуры, — каго б Вы туды ўключылі?**

— Ну, найперш, Уладзіміра Караткевіча. (Дарэчы, ён быў маім даўнейшым сябрам). Лепшыя вершы Панчанкі і Танка. Паасобныя вершы Звонака

З празаікаў — Быкава. Таго ж Караткевіча, Янку Брыля, Скрыгана, Міхася Стральцова.

**— Мяркуючы па Вашых складаных адносінах з камуністычнай ідэалогіяй, у партыі Вы не былі?**

— Не быў і не буду. Я ў Народным Фронце і вельмі ганаруся, што ўжо другое скліканне ўваходжу ў Сойм. Народны фронт — гэта рух. А партыі з самага пачатку ствараліся дзеля таго, каб разбіць адзінства БНФ. Я іх называю «кішаньковавымі». Там вельмі адчувалася рука КПБ і КДБ.

Уступіць у партыю мне прапаноўвалі шмат разоў і ў розных месцах — нават на ўзроўні загадчыка аддзела ЦК. То прыходзілася прыкідвацца дурнем, то я казаў «пачакаю, як будзе пяцьдзесят гадоў». Але як стукнула пяцьдзесят, я сказаў: «Паслухайце, з мяне ж смяяцца будуць — скажуць, на старасці дзеля кар'еры ў партыю ўступіў». Так я і перабіваўся без пасад і ўзнагарод. Самая вышэйшая адзнака — ордэн Дружбы народаў да 50-годдзя.

**— Самы «беспартыйны» ордэн. Ім звычайна ўзнагароджвалі заезджых неграў?**

— Так-так. А мая самая вышэйшая пасада — загадчык рэдакцыі ў выдавецтве. Зрэшты, і яе нельга было займаць беспартыйнаму. Але светлай памяці Міхаіл Фёдаравіч Дубянецкі стварыў такую дымавую завесу, — маўляў, Барадулін лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы, а гэта хоць і не камуніст, але ўжо нібы і не зусім беспартыйны. Вось такой дымавой саломы падаслалі і да Паўлава на субяседванне я не трапіў.

У партыю я не мог уступаць яшчэ і таму, што ў душы заўсёды верыў і веру ў Бога. Не рэкламуючы гэта і не давяраючы афіцыйнай праваслаўнай царкве.

**— Вы, відаць, назіраеце, якая кампанія супраць беларускай мовы разгарнулася ў рускамоўным друку. Патрабуюць «двухмоўя»...**

— Найярчэйшы прыклад іх «двухмоўя» — лёс «Вячэрняга Мінска». Выходзіць, як у тым польскім анекдоце:

— Што за каўбаса ў вас?

— Конь з курапаткай.

— А як яна выраблецца?

— Напалавіну: адзін конь — адна курапатка.

Вось да якога «двухмоўя» яны заклікаюць.

**— Напэўна, Вы адчуваеце, як мала чытачоў у паэзіі, асабліва паэзіі беларускай. Што дае сілы пісаць?**

— Калі, пераплываючы возера, заплыў за сярэдзіну, то вяртацца ўжо і сіл не хопіць, і сэнсу няма. А наогул, не пісаць ужо не магу. Пішу, як ёсць якая хвіліна — нават у аўтобусе, тралейбусе. Люблю працаваць са словам. Шукаю іх, запісваю, складаю ўласныя слоўнікі. Калі бываю ва Ушачах (а бываю там часта), заўсёды хаджу следам за Марыяй Рыгораўнай Трафімавай — сваячкай па бацькавай лініі. Вось дзе жывая, некранутая лексіка. І гэту рэшту слоў трэба захаваць, бо ідзе хуткая ўрбанізацыя, «асфальтызацыя» беларускай мовы.

Ну, і люблю нейкае слова часам «выкруціць» у вершы.

**— Заўсёды, калі чытаю Вашы вершы, становіцца шкада, што гэта віртуознае валоданне словам, тонкае адчуванне яго, лёгкая гульня з ім могуць быць па-сапраўднаму ацэнены толькі тымі, хто вырас у беларускай моўнай стыхіі. У гэтым сэнсе Ваш асноўны чытач, напэўна, яшчэ не нарадзіўся. Цяпер гэта проста не могуць ацаніць тыя, хто прывык чуць беларускую мову казённай, калькаванай, невыразнай, прымітыўнай.**

— Ведаеце, некалькі гадоў назад разам з добрымі паэтамі Грыгорам Віеру, Алегам Хлебнікавым і Марыяй Авакумавай я ездзіў у Францыю. Гэта быў ужо новы, «перабудовачны» час, без кэдэбэшнікаў-«перакладчыкаў». І там у адной зале аб'явілі вечар паэзіі. І я спецыяльна падлічваў: спачатку людзей у прэзідыуме і ў зале было пароўну. А пад канец у прэзідыуме стала болей, а ў зале — меней. Вось такое адчуванне і ў мяне з маёй паэзіяй: увесь час у зале ўсё меней. Але я думаю, што буду пісаць нават для таго апошняга, хто застанецца ў зале.

**— Вы шмат падарожнічаеце, бываеце за мяжой. Ніколі не ўзнікала думкі застацца там?**

— Я калі б куды і з'ехаў, то толькі ў Балтыю — у Літву ці Латвію. Люблю гэту зямлю. Мне і па крыві гэта блізка — мой дзед — латыш. І мовы літоўскую і латышскую я трохі ведаю. Роднасць адчуваю да гэтых земляў — асабліва да Латвіі. Звычайна кожную зіму бываю там. Вось сёлета не быў— і мне не па сабе, нейкая пустата.

А ўвогуле, нават ў Мінску я не адчуваю сябе дома. Я — ва Ушачах, каля сваёй хаты, возера. Праўда, хутка, гледзячы на цану білета да Ушач, можна будзе думаць, што еду за мяжу. Што ж, адразу дзве праблемы вырашацца...

**...Загалоўкам да гэтай гутаркі я ўзяў радкі з аднаго барадулінскага верша:**

**Чорны вол маёй трывогі,**
**Белы вол маёй надзеі**
**Цягнуць лямку да знямогі, —**
**Змрок турбот ані радзее...**

**Выразнае, вобразнае, жывое слова Рыгора Барадуліна... Пакуль існуе яно, — як у чыстую хвалю можам пагружацца мы ў трапяткую, рухавую стыхію мовы продкаў — ад шэрай паўсядзённасці, ад бляклага і прэснага стандарту.**

**Гутарыў Валянцін ЖДАНКО.**
**Фота Валянціна ЖДАНОВІЧА.**

## Восеньскі настрой Белавежскай пушчы

### ДРЫМОТНАСЦЬ

Лета тлела, даўгое і душнае,
І пакуль сцюжы не зараўлі,
Сонны дождж
Марасіста датушвае
Галавешкі варон на раллі.
Прачынацца лянуецца раніца,
Пазяхае,
Праспаўшы пару.
Восень хітра ў душу занураецца,
Як лісіца ў глухую нару.

### КАПЕЛЮШЫ ДОЛУ!

Чолаў задумлівых гаспадары,
Капелюшы кіньце долу, панове!
Зноў Белавежа ў пулятай панёве
Восені шэпча:
— Тугу пратуры.
У Белавежы багаты пасаг.
Доўга мароз не наважыцца ў сваты.
Сыпле наўзваж маладуха дукаты
Ў цераме, мшоным
Вятрамі ў пазах.
Рэха, як заяц, імчыцца наўскач.
Стынуць сукоў ззеленелыя змеі.
Значыць, бяду чарнатой разумее—
Аж надрываецца ў небе крумкач.

### МУСІЦЬ ДОЎЖЫЦЦА

Ліставейны лівень Белавежы,
Цёплы град зрудзелых жалудоў.
Зубранят вятрыстае начлежжа.
Ціхі смех няпуджаных слядоў.
Мох, расчулены баравікамі.
Мокрыя бабровыя хлуды.
Гэта мусіць доўжыцца гадамі,
Успаміны грэць у халады.

### ТРАДЫЦЫЙНАЕ

Журавы пасуцца на балоце,
Грэюцца ў дарогу журавінамі.
А туга стаілася на ўзлёце,
Каб знікаць сваімі пуцявінамі.
Журавы падымуцца ў нябёсы
Даганяць тугу далёка ў выраі.
Восеньскі настрой перапялёсы
Зябкавата пер'е натапырвае.
У ставок вада цішэй сцякае.
А над чаратамі, па-над пушчаю
З туманом плыве і не сціхае
Як пачуць—
Курлыканне скрыпучае...

### ТУРЛЮЙ

Тураў рог
І паляўнічы рог
Ладзілі йменіны баравіне.
Сам паганскі дух
Яе сцярог,
Лёгкую ў аблокаў на паміне.
Не адзін віхор
Зламаў язык,
А Турлюй не вымавіў з разгону.
На імхі пад рык,
І сык, і зык
Лось губляе галаву й карону.

### ЦЯЖКА

Дзяцел ісціну даводзіць дзюбай,
Толькі пра сваё шуміць сасна.
У сасны з вясны дума́ адна —
Высіцца й не гнуцца перад згубай.
Беразняк усмешкай белазубай
Так і прасмяецца да відна.
На хвасце ў сарокі пер'іна
Пераважыць ісціну рахубай.
Біся лобам ці сякерай дзюбай—
Не паміраца з маной віна.
І лясная знае даўніна—
Цяжка ісціну даводзіць дзюбай.

## У пошуку кансалідуючых ідэй

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛІНФАРМа ў Міністэрстве інфармацыі Беларусі, тут адбыўся «круглы стол» журналістаў. Прадстаўнікі шэрагу перыядычных выданняў выказалі сваё бачанне праблем, звязаных з асвятленнем у друку працэсу станаўлення беларускай дзяржаўнасці.

Нягледзячы на шматлікія заклікі да захавання стабільнасці, умацавання грамадзянскага міру і згоды, падкрэсліў у сваім выступленні міністр інфармацыі рэспублікі Анатоль Бутэвіч, палітычнае процістаянне ў Беларусі апошнім часам узмацняецца. У гэтых варунках вельмі многае залежыць ад сумленнасці, узважанасці і прадбачлівасці сродкаў масавай інфармацыі. Ніхто не адмаўляе іх права на ўласную пазіцыю, на свабоду публічнага выказвання. Між тым, лічыць міністр, грамадства не ў стане зрабіць рашучага кроку наперад, пакуль не будуць знойдзены кансалідуючыя ідэі. Ёю магла б стаць справа нацыянальнага адраджэння і пабудовы на Беларусі суверэннай дзяржавы.

Выказаныя ў час «круглага стала» меркаванні і прапановы будуць грунтоўна разгледжаны на рэспубліканскай нарадзе рэдактараў перыядычных выданняў, якую Міністэрства інфармацыі плануе правесці 29 кастрычніка.

## Нашы лекі— ваша здароўе

МІНСК. Нядаўна на мінскім заводзе медпрэпаратаў асвоены тры віды новых лекаў «Лідаза», «Неарадарандэкс» і «Стрэптадыкоза». Першае лякарства раней завозілася з іншых рэспублік СНД. Другое — традыцыйна беларускі прэпарат, а «Стрэптадыкоза» —адзіны ў краінах Садружнасці медыцынскі сродак, эфектыўны пры лячэнні крывяных тромбаў.

Цікава, што, нягледзячы на цяжкае фінансавае становішча, колькасць штатных работнікаў не скарачаецца. І сярэдняя зарплата на заводзе здавальняючая— каля 7 тысяч рублёў.



## ГАНДЛЁВЫ ГАМБІТ.

### Каўбаса ці закон: чыя возьме?

**Ёсць у Мінску па вуліцы Бельскага ўніверсам-магазін № 28 Фрунзенскага райхарчгандлю. Звычайны такі, непрыкметны. Вялікая пустая зала, сціплы асартымент прадуктаў, занятыя сваімі справамі прадаўцы. Ціхае, нетаропкае жыццё... Сёння ўжо, мажліва, нішто не нагадвае пра тое, што паўгода назад універсам нежартоўна ліхаманіла, што яго калектыў быў расфарміраваны, нібы вайсковае падраздзяленне за недаравальныя пралікі, што ўсе матэрыяльна адказныя асобы раскіданы па розных гандлёвых «кропках», а былая гаспадыня — дырэктар Таццяна Ільінічна Глазунова — дагэтуль сядзіць на «Валадарцы» — у гарадскім следчым ізалятары.**

Усе «крымінальныя» магазіны міліцыі, як правіла, вядомыя. І немудрагелістая валтузня найбольш прыкметных прадстаўнікоў айчыннага гандлю ў большасці выпадкаў ляжыць на паверхні. Але вось каб «прыхапіць» іх з доказамі — тут патрэбен падыходзячы момант. 14 красавіка момант быў удалы — пераацэнка гарэлкі, таму супрацоўнікі аддзялення барацьбы з эканамічнай злачыннасцю Фрунзенскага РАУС наведалі менавіта магазін № 28.

Прыхаваная гарэлка, вядома, адразу знайшлася. Прадавец Наталля Прыходзька сумесна з намеснікам загадчыка аддзела Кацярынай Сапешка, матэрыяльна адказнай асобай, схавала ад пераацэнкі 120 бутэлек гарэлкі «Рускай» па 0,7 л. Мяркуемы «навар» ад розніцы паміж старой і новай цаной павінен быў скласці 4.200 рублёў.

Чатыры тысячы ў красавіку яшчэ былі сумай, але гэта была нязначная дробязь у параўнанні з маштабамі дзейнасці дырэктара Глазуновай.

Таццяна Ільінічна, не пакрыўджаная лёсам саракагадовая дама, уладкавалася ў жыцці нядрэнна. Карыстаючыся сленгам сучаснай моладзі — «упакавана» што трэба. Кажуць, японскую відэатэхніку падбірала пад колер шпалер. Часцяком ваяжыравала ў Польшчу. Моцныя сувязі дазваляюць ёй не губляцца ў любой сітуацыі. Калі Глазунову прывезлі ў РАУС, ужо хвілін праз дзесяць яна заявіла: «Хлопцы, нешта я доўга ў вас затрымалася. Зараз хто трэба даведаецца, дзе я, і прыедзе з вас пагоны здымаць. Так што стройцеся!» Сказана было з усмешкай, але не жартам.

Калектыў яна трымала жалезнай рукой. Прадавец Прыходзька, з чыёй касы Глазунова ўзяла на свае патрэбы сорак дзве тысячы рублёў, тлумачыла: «Ну, як вы не разумеце— я не магла не даць!» Таццяна Ільінічна наогул не бачыла розніцы паміж касай магазіна і ўласным кашальком. Вынік— на момант праверкі агульная сума нястачы склала дзвесце тысяч. А работнікі міліцыі ўвесь час «адлоўлівалі» дысцыплінаваных падначаленых Глазуновай, якія, нібы пчолы ў вулей, з усіх кутκоў цягнулі да касы пачкі грошай — ратавалі гаспадыню.

Метады, якімі Глазунова «рабіла грошы», можна прасачыць і на прыкладзе «левага» шакаладу. Таццяна Ільінічна атрымала ад малога прадпрыемства «Белдарбудмантаж», зарэгістраванага ў Івянцы, 15 скрынак шакаладных батончыкаў «Bounthy». Малому прадпрыемству яна павінна была аддаць 115 тысяч рублёў, «накруціць» свае працэнты і прадаць тавар праз свой магазін за 140 тысяч. Уся розніца прызначалася для кішэні дырэктара, бо нідзе па дакументах гэтыя 15 скрынак шакаладу не праходзілі. Крыху раней Глазунова атрымала ад гэтага ж МП тры скрынкі тых жа батончыкаў і афарміла іх як належыць, так што гандляваць «левым» таварам пад прыкрыццём папярэдняй партыі можна было без боязі. Лёгкія грошы. Але і тут Таццяна Ільінічна праявіла сваю натуру — «абула ў лапці» партнёраў на дзесяць тысяч. Прыехаў прадстаўнік МП за грошамі, а яна яму: «Выбачай, у мяне няма 115 тысяч, а ёсць 105. Бярэш?» Узяў, не ехаць жа назад з таварам. Такім чынам, каб не работнікі міліцыі, Глазунова, практычна і пальцам не варухнуўшы, атрымала б 35 «кускоў».

Класічная спекуляцыя, але... Прыхапілі Таццяну Ільінічну з шакаладам 15 красавіка, а ўжо 23-га былі прыняты некаторыя змяненні ў заканадаўстве Рэспублікі Беларусь, і такое паняцце, як «спекуляцыя» з законаў знікла. Рынак, маўляў.

Такім чынам зараз, калі дырэктар магазіна гандлюе не ў касу, а сабе ў кішэнь, рэалізуючы «лявак», гэта называецца не спекуляцыя, а прадпрымальніцтва. Смялей, гандляры, усё дазволена!

З шакаладам Таццяне Ільінічне, можна сказаць, пашэнціла (калі, вядома, не лічыць страту 35 тысяч рублёў), але яе становішча моцна ўскладніла знаёмства з Віктарам Барысавічам Грыгаранам, жыхаром Астрашыцкага гарадка. Гэты Грыгаран, відаць, умее рабіць прыемнае ўражанне на гандлёвых работнікаў, бо толькі за тры з палавінай месяцы — са студзеня да сярэдзіны красавіка — дырэктар Глазунова разам са сваім намеснікам Русакоўскім, загадчыцай аддзела Манькоўскай і прадаўшчыцай Прыходзька прадала яму са складаў магазіна 100 кг цукру, 240 кг масла, 800 пляшак гарэлкі «Пшанічная», 60 бутэлек «Савецкага шампанскага» (менавіта столькі, лішніх нулёў няма) — на 55.810 рублёў у дакрасавіцкіх цэнах. Увесь тавар, заўважце, строга лімітаваны, прадаецца толькі па талонах. Куды, у якія гарачыя паўднёвыя краі «сплыў» ён са складаў магазіна № 28 Фрунзенскага райхарчгандлю, можна толькі здагадвацца.

Гэтыя аперацыі ажыццяўляліся з зайздроснай рэгулярнасцю, на вачах у калектыва. І падначаленыя, наглядзеўшыся, самі пачыналі рабіць свае маленькія капейкі— а што, іншым можна, а нам нельга. На кватэры намесніка загадчыка аддзела магазіна Ігара Уладзіміравіча Арцюшэнкі работнікамі міліцыі было знойдзена звыш 300 кг цукру, 5 скрынак карамелі, вялікая колькасць гарэлкі, каньяку, віна і... самагонны апарат. Ён і не адпіраўся: «Гарэлку я, ведаеце, не вельмі, а вось самагонку люблю». Мы, наіўныя, усё думаем, галаву ламаем: што б гэта зрабіць, каб прадаўца вызваліць, рукі яму развязаць, каб нарэшце пачаў нас па-рыначнаму абслугоўваць! І няўцям дурням, што рукі ў яго даўно развязаныя, але грабе ён гэтымі рукамі толькі да сябе, іншага рынку яму не трэба.

Тыя сяброўскія паслугі, што Глазунова аказвала Грыгарану, на сухой мове закона называюцца «наўмыснае парушэнне правіл гандлю, якое выразілася ў продажы тавараў са склада магазіна па папярэдняй змове групай асоб у асабліва буйных размерах». У верасні адбылося пасяджэнне народнага суда Фрунзенскага раёна пад старшынствам суддзі Людмілы Шапашнікавай, на якім на падставе арт. 156-2 ч. 4 Крымінальнага кодэкса РБ з прымяненнем арт. 42 КК РБ Таццяне Глазуновай было прызначана пакаранне ў выглядзе трох гадоў 6 месяцаў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці і з пазбаўленнем права займаць матэрыяльна адказныя пасады тэрмінам на 5 гадоў з адбыццём пакарання ў папраўча-працоўнай калоніі агульнага рэжыму (на тым жа пасяджэнні 2,5 года калоніі атрымала Прыходзька і 2 гады «хіміі» — Сапешка).

Прысуд для Глазуновай быў поўнай нечаканасцю. Сядзець у калоніі яна яўна не збіралася. І адвакат усяляк падрымліваў у сваёй падапечнай упэўненасць, што ўсё скончыцца добра. Яшчэ падчас следства ён, без ценю сораму, у прысутнасці следчага запэўніваў яе: «Шаноўная, не хвалюйся, усё вырашым, з усімі дамовімся. І за кватэру не бойся — ужо ўсё вывезлі». (Не схлусіў, пасля суда, сапраўды, канфіскоўваць ужо не было чаго). А калі пасля заканчэння следства Фрунзенская райпракуратура адразу выпусціла Глазунову на волю пад распіску аб нявыездзе, тая наогул павесялела.

І раптам — калонія. Таццяна Ільінічна да такой ступені была ашаломлена прысудам, што падхапілася і... кінулася наўцёкі з залы суда. Але хіба ад канвоя далёка збяжыш?

Прысуд, сапраўды, нетыповы. Мы ўжо неяк прывыклі да таго, што ў сённяшняй атмасферы ўсёдазволенасці гандляры за свае «хітрыкі» атрымліваюць, у асноўным, вымовы ды штрафы, якія толькі спрыяюць развіццю ў іх пачуцця гумару. Да калоніі справы даходзяць надзвычай рэдка.

— Людміла Ігараўна, вы не любіце гандлёвых работнікаў? — спытаўся я ў суддзі Шапашнікавай. — У вас да іх наогул непрыязныя адносіны?

— Не, чаму? Сярод маіх засядацеляў яны таксама ёсць, у нас нармальныя адносіны.

— Вы лічыце, што так можна перамагчы парушэнні ў гандлі? Вы ідэалістка?

— Я не ідэалістка. Я разумею, што наш прадавец ніколі не выйдзе з-за сваіх службовых дзвярэй і не стане ў агульную чаргу. Але Глазунова проста зарвалася. Дарэчы, пакаранне мы ёй прызначылі ніжэй ніжняй мяжы — артыкул прадугледжвае ад 5 да 10 гадоў.

Мае пытанні да Людмілы Ігараўны насілі крыху правакацыйны характар. Справа ў тым, што апошнім часам у нас пануюць песімістычныя перакананні, быццам з парушэннямі ў гандлі ў цяперашняй эканамічнай сітуацыі змагацца бескарысна. «Канешне!» — згаджаюцца гандляры і яшчэ шпарчэй набіваюць кішэні. Мы, па сутнасці, унутрана капітулявалі перад імі. Але так, калі удумацца, можна ўсё апраўдаць, нават забойства. Сапраўды, навошта забойцаў лавіць? Усё роўна знойдзецца яшчэ

(Заканчэнне на 6-й стар.).

